№12(38)
7.04.95

# Беларуская маладзёжная

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.

**TV программа на неделю**

( стр. 4 )

*Валерий КАРБАЛЕВИЧ, политолог, кандидат исторических наук:*

## "Угроза авторитаризма"

( стр. 2 )



## Жыццё ў стылі "БМ"

( стар. 8 )

*Тина КЛЫКОВСКАЯ, "БМ":*

## "БОМЖАТНИК"

( стр. 5 )

**Буслянка**

( стар. 5 )

*Ольга МАХОНИНА, "БМ"*

## МАРАФОН ЖИЗНИ

( стр. 6 )

• Партыйныя чуткі

## Партыя аматараў піва таксама крочыць да выбараў. З півам

( стар. 2 )

## Пра РОК

( стар. 7 )

*Андрэй ЗАВАДСКІ, дэпутат Мінгарсавета:*

## "БЕЛАРУСЬ - У КНІГУ РЭКОРДАЎ ?"

( стар. 7 )

*Елена ШУМАРОВА:*

## "Германия, Германия..."

( стр. 3 )

# Лукашенковский каприз: "Получите вам акциз!"

# Угроза авторитаризма

Последние события в стране показывают, что Беларусь уверенно движется в направлении формирования авторитарного режима. Публичные заявления президента о том, что он не собирается выполнять принятые Верховным Советом законы, демонстративное пренебрежение к Конституции и праву при снятии Середича, угрозы другим СМИ не оставляют в этом никакого сомнения.

Реакция депутатов на смещение главного редактора «Народной газеты» есть свидетельство политического самоубийства Верховного Совета. После этого парламент можно считать политическим трупом, который президент может пинать ногами, как захочет.

Необходимо отметить, что плохой парламент — это все же лучше, чем отсутствие парламента вообще. Представляется, что стратегия президента в отношении Верховного Совета состоит в том, чтобы «выжать» из него решение о проведении референдума, добиться его отставки и по возможности сделать все, чтобы выборы в новый высший представительный орган не состоялись.

Новый Верховный Совет при любом исходе выборов будет гораздо более непослушным, оппозиционным по отношению к президенту, чем нынешний. Непримиримая оппозиция в лице БНФ не скрывает, что ставит задачей после парламентских выборов осуществить импичмент президента. В большей или меньшей оппозиции к исполнительной власти находятся все партии блока «Гражданское согласие». На волне резкой критики позиции президента начинается избирательная кампания левых партий — наиболее идейно близких президенту. Независимые популисты также будут вести предвыборную борьбу на основе критики властей. Призыв Лукашенко к государственным и хозяйственным руководителям не участвовать в выборах также ослабит ряды сторонников президента в парламенте. Резкое падение уровня жизни населения, снижение рейтинга главы государства ведет к тому, что претендентов на депутатский мандат с открыто пролукашенковской ориентацией будет мало.

Кроме того, новый Верховный Совет избирается на год позже президента, а значит, будет отражать настроения электората в большей степени, чем Лукашенко. Это придаст ему силы и уверенности в противостоянии исполнительной власти.

И исполнительная власть, похоже, предпринимает усилия для того, чтобы выборы провалились. Об этом свидетельствует задержка с финансированием избирательных комиссий. И самое главное — президент последовательно дискредитирует парламент как государственный институт вообще. Населению неявно внушаются мысли: чуть ли не за каждым кандидатом в депутаты стоят коммерческие (читай: криминальные) структуры; для оппозиции идут деньги из-за рубежа; в стране уже есть власть, избранная народом на президентских выборах, а в Верховном Совете заседают лишь политиканы, болтуны и популисты; «серьезные» люди в лице государственных и хозяйственных руководителей не должны участвовать в выборах и т.д.

Все социологические опросы показывают, что рейтинг главы государства продолжает падать, и не просматривается никаких шансов остановить это падение. В таких условиях предложение о референдуме может явиться единственным способом найти благоприятный выход из сложной для него ситуации. Лукашенко пытается сконструировать ситуацию лета 1994 г. и на этой основе повторить свой триумф. Положительные ответы на предложенные им вопросы будут трактоваться президентом (и восприниматься в обществе) как вотум доверия президенту.

С другой стороны, если референдум пройдет одновременно с парламентскими выборами, то вопросы, выдвинутые на него, зададут идеологический фон всей предвыборной кампании. Все политические партии и кандидаты будут вынуждены обсуждать эти проблемы, а не политику президента, ход проведения реформ и т.д. Неслучайно некоторые левые партии уже поддержали эту идею. Левый парламент выгоден президенту, ибо это родственные ему силы.

Таким образом, цель референдума — отнюдь не стремление узнать действительное мнение народа, а желание разыграть политическую карту, приобрести определенный политический капитал.

Выдвижение на референдум вопросов о символике есть свидетельство недостаточной зрелости белорусской государственности, зыбкости нашего суверенитета, отсутствия общественного согласия по фундаментальным ценностям: социализм или капитализм, независимость или восстановление СССР и т.д. В этом отношении мы, по-видимому, остались последним государством в Европе. Всенародного голосования по вопросу, какого цвета должен быть государственный флаг, история, наверное, не знала. Вообще дискуссии по проблемам языка, символики напоминают диалог глухих. Противоположные стороны не слышат друг друга.

Кроме того, вопросы о символике и полномочиях президента — это достаточно сложные проблемы, требующие определенных знаний как историко-политического, так и юридического характера. Так, по поводу второго вопроса можно отметить, что полномочия президента и парламента должны быть сбалансированы на основе сложной системы сдержек и противовесов. Предложение Лукашенко дать президенту право распускать парламент в случае его реализации такой баланс нарушит. В мировой практике существуют отработанные механизмы конституционного устройства, которые предусматривают, что, если президент обладает полномочиями формировать правительство (сильный президент), то он не формирует правительство (Италия, Германия). Предоставление президенту полномочий формировать Кабинет министров и одновременно распускать Верховный Совет означает концентрацию власти в руках главы государства со всеми вытекающими отсюда последствиями.

Нельзя возлагать слишком больших надежд на Конституционный суд как на орган, способный противодействовать наступлению авторитаризма. Председателем его избран В. Г. Тихиня. Он был одним из руководителей ПКБ, которая с сомнением относится к идее правового государства, отрицает нынешнюю Конституцию Беларуси, считая, что в результате ее принятия в стране осуществлен буржуазный переворот. Совсем недавно Тихиня с парламентской трибуны уверял, что устранение парткомов с государственных предприятий и учреждений, их деполитизация противоречит международному праву. Неслучайно именно его Лукашенко предложил на пост председателя Конституционного суда в период, когда в стране складываются условия для авторитарного правления.

***Валерий КАРБАЛЕВИЧ,***
***политолог, кандидат исторических наук***

● Партыйныя чуткі

# Партыя аматараў піва таксама крочыць да выбараў. З півам

*Калі зыходзіць з той банальнасці, што моладзь — будучыня рэспублікі, дык найбольш прыцягальнай для яе, як мне падаецца, з'яўляецца з усіх існуючых Партыя аматараў піва. Аб ёй хаця б нешта чулі ў кожным пакоі любога інтэрнату, нават самыя інэртныя студэнты. І не таму, што партыя з такой «непалітычнай» назвай успрымаецца як не зусім класічная ідэалагічная сіла. З палітыкай і грунтоўным удзелам у ёй усё ў парадку, і тыя, хто трапіў хаця б на трэці з'езд ПАП, у гэтым маглі пераканацца. Менавіта гэтая партыя выглядае больш жыццяздольнай і таму асабліва прывабнай для моладзі, якая не прымае зануд у сумных пінжаках. Падставы таму — пэўная раскамплексаванасць, натуральнасць паводзін і магчымасць даць адчуць сябе сваімі ў партыі не толькі для «палітычных хлопчыкаў», што з'яўляецца іміджам партыі. Але з нагоды пачатку передвыбарнай кампаніі размова з лідэрам ПАП Андрэем РАМАШЭУСКІМ вярцелася выключна вакол удзелу партыі ў выбарах.*

**— Андрэй, на якіх пазіцыях і ў якім складзе выходзіць на выбары ПАП? І наколькі сур'ёзна спадзяецеся вы на перамогу?**

— Як заўсёды, адказваць на гэтае пытанне пачну з канца. Усё сур'ёзна, і вельмі сур'ёзна. І дзякуй Богу, што некаторыя арганізацыі пакуль што не расцэньваюць нас як сур'ёзных канкурэнтаў. Гэта іх праблемы. Калі яны ацэняць гэта ў другім туры выбараў, будзе ўжо позна.

Партыя пойдзе пад сваёй праграмай, нічога новага ў яе не ўключаючы, бо выбары — гэта не крок да нейкіх ідэалагічных дыскусій, калі партыі спрабуюць выступіць перад выбаршчыкамі ў іншым выглядзе. Мы ж нічога не мяняем. Якія мы ёсць паміж выбарамі, такімі мы да іх і ідзем — пад праграмай ліберальнай партыі, якой мы фактычна з'яўляемся. Галоўныя нашы перадвыбарныя лозунгі, як было сказана на з'ездзе, застаюцца нязменнымі — Беларусь, Свабода, піва.

**— Як ты гэта разумееш — ліберальная партыя?**

— Існуе класіфікацыя партый па арыентацыі, і ў гэтым плане мы з'яўляемся класічнай ліберальнрай партыяй. Мы выступаем за эканамічныя свабоды, за правы чалавека, за прыарытэт іх перад дзяржавай, нацыянальнай ці дэмакратычнай, якой патрэбна толькі, каб шырокія народныя масы ўдзельнічалі ў выбарных органах. Для нас гэта не самамэта. Наогул жа ліберальна-дэмакратычных партый у нас няма, бо тыя, хто сябе так называе... Адна справа —называцца, другая — быць. Я б сказаў, што ліберальная партыя ў нас адна — гэта АДПБ.

**— Вы збіраецеся падчас выбараў ствараць блокі з іншымі партыямі?**

— Не, ніякіх блокаў мы не падтрымаем, таму што, па-першае, мы не бачым сэнсу ў стварэнні блокаў пры існуючай сістэме, а па-другое... Можна было б пайсці на блок з АДПБ, бо па ідэалогіі нам гэтая партыя шмат у чым блізкая, але ж іх тактыка, здаецца мне, крыху ўсё ж адстае ад ідэалогіі. І наогу, няма ў нас на палітычным рынку тых, хто можа прафесійна працаваць.

**— А тое, што Партыя аматараў піва ў большасці сваёй партыя маладая, не можа адмоўна паўплываць на яе прафесіяналізм?**

— Узрост у нас сярэдні — 33 гады, я гэта сам вылічаў, падзяліўшы агульную колькасць гадоў на 28 кандыдатаў. І потым, калі кандідату 50 гадоў, цяжка назваць яго маладым кандыдатам. А ў нас ёсць кандыдаты, якім і па 40, і па 60 гадоў. Вядома, ёсць і зусім маладыя, але спадзяемся, што гэта не будзе перашкодай для іх хаця б таму, што моладзі ў нас працэнт немалы. Нягледзячы на тое, што рэспубліка старэе, моладзь у нас ёсць, некаторыя кандыдату ідуць у студэнцкіх акругах, а там гэты фактар будзе толькі станоўчым.

**— Які працэнт перамогі вы прагназуеце дэмакратычным сілам наогул?**

— Дзе ў нас тыя дэмакратычныя сілы? Той жа БНФ... Не скажу, што гэта сіла антыдэмакратычная, але яна ў першую чаргу адраджэнцкая, а не дэмакратычная. А калі шукаць чыстых дэмакратаў, дык гэта такія дробненькія партыі... Таму з пазіцый агульных слова «дэмакратычныя» лепш апусцім і скажам «прагрэсіўныя», хаця камуністы знайшлі б ім іншае азначэнне. А да іх я прылічаю і ліберал аў, і адраджэнцаў. І менавіта яны павінны, на мой погляд, выйграць гэтыя выбары, калі яны ўсё ж адбудуцца.

**— Лічыце, могуць не адбыцца?**

— Вельмі высокая магчымасць. Чаму? А раптам прэзідэнт не дасць грошай на выбары? Бо ўсім ясна, што яны яму не патрэбныя. Калі яны адбудуцца, то праз месяц ён ужо не прэзідэнт. Зняты будзе ён тут жа, незалежна, каго выберуць, бо парламент будзе ўжо не той. Напрыклад, першае пытанне, якое паставяць кандыдаты ад нашай партыі, — гэта змяненні ў Канстытуцыі з мэтай ліквідацыі самога інстытута прэзідэнцтва. Таму іх могуць сарваць. Тады стары Савет будзе распушчаны, 20-30 дэпутатам Лукашэнка дасць месца дзе-небудзь у адміністрацыі, і тады, пакуль Лукашэнка не памрэ, будзе ягоная ўлада, ягоная апрычніна. Гэта верагодна, мы да гэтага гатовыя.

**— Што сабой уяўляюць кандыдаты ПАП?**

— Вельмі якасныя людзі. Напрыклад, Г.Казлоў, дацэнт кафедры Белдзяржпалітэхнічнай акадэміі, ці С.Высоцкі, старшыня пакуль не зарэгістраванай Партыі свабоды. А вось у Баранавічах ад нас ідзе проста студэнт. Ну і, вядома, уся наша наменклатура, палова нашага ЦК.

Вось са мной, напрыклад, па адной акрузе ідзе Барыс Гюнтэр, пра якога адзінае, што вядома, — тое, што ён кандыдат ад Фронту. І тое, што раней ён быў дэпутатам, але гэта наўрад ці станоўчая інфармацыя, бо стаўленне людзей да ВС вы ведаеце. І хаця прыналежнасць невядомай асобы ад вядомай партыі нічога для кандыдата не вырашыць, дык дачыненні да нашай партыі дае нейкія козыры ў рукі. Што ні кажыце, але мы можам больш павольна весці сябе падчас агітацыі, чым іншыя партыі, менш стрымана, больш весела. Дзякуй Богу, ёсць такая магчымасць, і мы будзем яе выкарыстоўваць. Цяжка і з кампраматамі на нас, асабліва на маладых, таму што на маладога кандыдата кампрамат знайсці цяжка; яго няма.

**— Як, на твой погляд, успрымаюць ПАП у грамадстве?**

— Не я, а сацыёлагі гэта ацэньваюць, а я чытаю, што яны кажуць. Яны ж кажуць, што, каб выбары адбыліся сёння, 9% выбаршчыкаў нам галасы б аддалі. А супраць галасавалі б 3%.

**— А астатнія?**

— Астатнія? За астатнія можна яшчэ змагацца. Але каб выбары ішлі па партыйных спісах, то гэтыя 9% далі б нам 25 месцаў у парламенце. А гэта нямала. Будзем, відаць, мець крыху менш месцаў, але наша партыя пакуль што сябе нічым не скампраметавала ў адрозненне ад камуністаў з іх даўнімі крывавымі традыцыямі ці Фронта, якога народ чамусьці баіцца, бо шмат жа людзей Фронт не любіць. У нас такой жорсткай апазіцыі, як у іх, няма, і ставіцца народ да нас у прынцыпе цёпла, сяброўскі.

**— Які асноўны кантынгент сяброў ПАП?**

— Інтэлігенцыя, прадпрымальнікі, студэнты. Студэнтаў шмат, амаль што палова. Але гэта сёння яны студэнты, а заўтра — спецыялісты з вышэйшай адукацыяй.

**— Стварэнне Партыі аматараў піва для цябе — атрыманне асабістых палітычных дывідэндаў?**

— Дывідэндаў? Наўрад ці можна аб іх тут гаварыць, але для мяне гэта магчымасць прафесійна займацца палітыкай дастаткова незалежна. Я б мог займацца гэтай дзейнасцю і ў рамках Фронту, але ж свая партыя дае некаторыя свабоды і прастору для палёту. Не дывідэнды, а хутчэй крылы і руль у рукі.

**— Якімі сродкамі і метадамі вы збіраецеся весці перадвыбарную кампанію?**

— Традыцыйнымі. А калі спытаць, за якія сродкі, — за дзяржаўныя. Іншыя выкарыстоўваць мы не маем права, таму не будзем гэтага рабіць. Ну, а што аб эфектыўнасці іх выкарыстання — гэта ўжо нашы пытанні. Ну, я б сказаў так: за тыя грошы, за якія Фронт надрукуе сабе 10 тысяч улётак, мы сабе надрукуем 20 тысяч. Бо ў нас ёсць танныя друкарні, мы яшчэ па старому кошту закупілі паперы, тым больш, што ёсць у нас свае спецыялісты ў друкаванай справе. Яшчэ — сустрэчы з выбаршчыкамі. Што можна новага прыдумаць? Увесь свет так робіць — сустрэчы, друкаваныя матэрыялы, улёткі, афішы. Прыемна было б выкаціць бочку піва, пакатаць яе па ўчастку, але гэта, з аднаго боку, прыгожа глядзіцца і выбаршчыкам прыемна, а з другога — гэта можа разглядацца і як подкуп выбаршчыкаў. Ды і за дзяржаўныя грошы мы сабе гэтую бочку піва дазволіць не можам.



**— Падтрымка бізнесменаў шмат вырашае для кожнай партыі. У вас яна ёсць?**

— Так, таму што іх у нас у партыі нямала, і ім будзе вельмі цікава, калі нашы прадстаўнікі ў парламенце будуць змагацца за эканамічныя свабоды, за зніжэнне падаткаў, за адстаўку Лукашэнка, які для нашай эканомікі вялікая праблема, на ўроўні інфляцыі. Ды і мы ставім інтарэсы бізнесменаў не на апошняе месца, асабліва дзяржаўнага сектара, бо такая рэч, як дзяржэканоміка, і так успрымаецца не зусім нармальна.

**— А якое меркаванне аб пабудове адносін з Расіяй?**

— Ніякіх ёй прыярытэтаў! Для нас Расія нічым не лепш за Непал. Патрэбны роўныя адносіны з усімі дзяржавамі, з якімі мы маем, напрыклад, агульную мяжу, ці другія дачыненні. Мы лічым, што Расія не заслугоўвае таго, каб у адносінах з ёй праводзіць нейкую асобную палітыку. Мы за нармальныя двухбаковыя партнёрскія адносіны, але — ніякіх прыярытэтаў. Той, хто лічыць, што нам патрэбна такая блізасць з Расіяй, бо яна дае нам газ ці нафту, не ўлічвае, што, калі мы будзем везці нафту з Эміратаў танкерамі, а потым перакачваць нафтаправодам з Украіны, будзе шмат танней, тым больш што з Расіяй мы разлічваемся сабе ў страту. Калі ёсць старыя гандлёвыя сувязі — добра, але арыентацыя павінна быць не на Расію, а —прарывацца на Захад.

**— Калі не атрымаецца перамагчы, што далей?**

— Калі не атрымаецца на выбарах 1995 года, то атрымаецца на выбарах 97-га. Таму што наступныя выбары будуць усё ж не ў 2000 годзе, а датэрмінова.

***Гутарыла***
***Ціна КЛЫКОЎСКАЯ, "БМ"***

# Германия, Германия...

## или "Старший сын" на год. Но очень желанный

***Кому не хочется побывать за границей? Конечно, если у вас завалялась тысчонка-другая "зелененьких", то можно махнуть и на Канары. Ну, а если ты еще только начинаешь свой жизненный путь и, кроме молодости, здоровья и огромного желания познакомиться с этим невероятно огромным миром, не ограниченным пограничными столбами? Оказывается, для того, чтобы побывать за границей и даже пожить там некоторое время, вовсе не обязательно быть "крутым" бизнесменом. Стоит всего лишь попытать счастья в рамках программы "Au pair", рассчитанной на юношей и девушек от 18 до 27 лет.***

***Итак, что же это за программа такая? Об этом рассказывает ее заведующая Людмила ШИРКОВЕЦ.***

-- Для начала -- несколько слов об истории создания программы. Много лет назад молодой немецкий юноша Маттиас Отт, имевший огромное желание качественно выучить английский язык, но, увы, не имевший денег на оплату учебы, приехал в Англию, где с очень большими трудностями добился возможности работать. Работать, чтобы, с одной стороны, обеспечить себя, а с другой -- иметь возможность оплатить курсы по совершенствованию языка и попутешествовать по стране. Собственный, зачастую горький, опыт побудил Маттиаса заняться решением этой проблемы для других молодых людей. И он решил ее, создав вот такую программу. Теперь же сотни юношей и девушек ежегодно приезжают в Германию и, поверьте, имеют гораздо меньше проблем, чем Маттиас в свое время.

**-- Людмила, в чем же все-таки суть программы?**

-- "Au pair" в переводе с французского -- "равный", следовательно, подразумевается, что немецкая семья принимает вас, как своего равноправного члена, т.е. юноша или девушка на время становятся как бы старшим сыном или дочерью, помогая в воспитании младших детей, что естественно для любой семьи. Принимающая семья предоставляет отдельную комнату, полный пансион, медицинское страхование на все время пребывания в Германии, да еще и ежемесячно выдает на карманные расходы по 380 ДМ. Но для того, чтобы стать таким сыном или дочерью, необходимы три условия: во-первых, соответствующий возраст, владение немецким языком на уровне разговорной речи и конкретный опыт работы с детьми.

**-- Мне кажется, это больше похоже на найм работника.**

-- Здесь вы не правы. Конечно, определенные обязанности у юноши или девушки есть. Но такие же обязанности существуют в любой семье. Допустим, в соответствии с потребностями семьи и рабочим графиком родителей за детьми приходится присматривать примерно 30 часов в неделю. Но выходной день обязателен. После шести месяцев работы вы имеете право на недельный оплаченный отпуск. Вашим рабочим временем считается то, которое вы проводите наедине с детьми, выполняя весь круг несложных обязанностей, связанных с уходом за ними. Например, родители в 8 утра ушли на работу, предоставив вашим заботам двух детей. От вас требуется помочь им умыться, одеться, заправить кровати, подать завтрак, отвести старшего в школу, одновременно выйдя с младшим на прогулку. Затем занять его какими-либо играми, приготовить обед. После обеда, как правило, мать возвращается с работы. Следовательно, ваш рабочий день закончен. Заботы по дому вновь лежат на плечах матери, но если вы никуда не уходите и весь вечер проводите в семье, то будет естественным, если "старшая дочь" поможет в приготовлении ужина. Это очень важно для создания и поддержания естественного микроклимата, добрых взаимоотношений в семье.

**-- Вы сказали, "добрых взаимоотношений". Тем не менее, где гарантия, что они состоятся?**

-- Не буду скрывать, почва для конфликтов, некоторой натянутости в отношениях весьма благоприятна. Сами понимаете, разница в привычках, культуре быта может вызывать постоянные недоразумения. Кроме того, следует учитывать и стресс, когда человек оказывается в чужой стране, среди незнакомых людей и малопонятного на первых порах языка. Конечно, в особо серьезных случаях можно заменить принимающую семью на другую. Однако в любом случае решение остается за вами. Но и ваша мотивация для участия в этой программе должна быть достаточно сильной: не романтическое желание красиво пожить за границей, а продуманное решение использовать этот год для знакомства "изнутри" с культурой и людьми пока далекой от вас страны.

**-- Наверное, это действительно удобно. Но ведь дело не только в деньгах, выдаваемых на карманные расходы?**

-- Безусловно. Этот год может стать переломным для всей вашей жизни. Во-первых, первые три месяца своего пребывания в Германии юноши и девушки посещают курсы языка, а затем целый год буквально "купаются" в нем, как говорят фанаты-полиглоты. С таким знанием немецкого в перспективе можно легко найти работу в любой солидной фирме. Во-вторых, любое дальнейшее сотрудничество в будущем значительно облегчится знанием психологии немцев, их традиций, привычек, взглядов. И что самое главное -- вы сохраните на всю жизнь теплые человеческие контакты с многочисленными друзьями во всей Европе. Кстати, аналогичные программы многие годы успешно работают почти во всех странах Европы, потому что везде находятся молодые люди, интересующиеся Германией. Вы будете иметь возможность встречаться с ними на общих культурно-образовательных мероприятиях, которые периодически проводит Боннское общество международных молодежных связей.

**-- Звучит заманчиво. Судя по всему, от претендентов пожить таким образом в Германии нет отбою?**

-- Наши объявления о программе привлекают многих, но на собеседование приходит только часть звонивших по телефону, т.к. не все соответствуют трем главным требованиям. После подробной беседы договор на оформление документов заключает еще меньшее количество претендентов. Причины здесь различны: одни боятся работы, другие не хотят надолго уезжать из дома, третьи оказываются замужними или женатыми, что тоже служит препятствием для участия в программе.

**-- Наверное, некоторых отпугивает и то, что за оформление документов, включая загранпаспорт и дорогу в оба конца, приходится платить.**

-- Отчасти и так. Но эти затраты окупаются в первый же месяц работы, к тому же выдаваемые претендентам специальные визы "Au pair" бесплатно, поскольку наши боннские партнеры реализуют эту программу по поручению правительства Германии. Есть только два не известных до последнего этапа момента: место вашего пребывания и количество детей в семье, потому что не вы выбираете семью, а семья выбирает вас по вашим данным -- возрасту, навыкам, талантам и даже... улыбке на фотографии. В целом программа абсолютно надежна и продумана. А весь срок своего нахождения в стране вы находитесь под патронажем наших боннских друзей. Мы же со своей стороны стараемся разъяснить вам все тонкости и подробности, а также возьмем на себя оформление документов. И помните, что у ваших родителей такой возможности не было. У вас же она есть.

***Что ж, как видим, возможности у нынешних молодых достаточно обширны. Творите, дерзайте -- и этот огромный и невероятно интересный мир откроется перед вами. А для тех, кого заинтересовала программа, сообщаем телефончик: 25-85-65, фирма "Арготур".***

*Беседовала Елена ШУМАРОВА*

# "Я ХАЧУ ВУЧЫЦЦА"

***На працягу трох месяцаў праходзіла стажыроўку ў Амерыцы ў Масачусецкім інстытуце тэхналогіі (штат Масачусетс, г.Бостан) Людміла Пятроўна Саянкова, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры тэорыі і практыкі сучаснай журналістыкі.***

**-- Людміла Пятроўна, вы накіраваліся ў гэтую паездку з пэўнай настроенасцю на нешта. Атрымалі тое, што хацелі?**

-- У мяне была ўстаноўка на тое, што я еду вучыцца. Вы ведаеце, я адна з тых жанчын, пра якіх казаў Ландау: "Жанчына вылучаецца адной асаблівасцю: яна любіць вучыцца". Я люблю вучыцца. Гэта значыць, для мяне лішняя нагода павучыцца -- ніякая не нагрузка, не цягамоціна. Я проста абажаю насычаць сябе інфармацыяй. Розум, адукацыя -- гэта тое, што выклікае ў мяне абажанне.

Я ведала, што ў Амерыцы атрымаю вялікую колькасць літаратуры. Той, якую я ніколі не пабачу і не атрымаю тут. І сапраўды, тое, што я пабачыла там у бібліятэках, мяне ўразіла. Таму што я ніколі не бачыла такой велізарнай колькасці кніг, скажам, па тым, што ў іх называецца "руская культура". Дарэчы, для амерыканцаў дагэтуль існуюць паняцці Савецкага Саюза, савецкай культуры, савецкага кіно... А дзяржава Беларусь у прынцыпе невядомая. Беларуская культура ім таксама незнаёмая, абсалютна. І калі пачынаеш тлумачыць, што дзяржава Беларусь размяшчаецца паміж Расіяй і Польшчай (гэтыя геаграфічныя паняцці ў іх на слыху), яны ўсё адно пытаюць: а што гэта -- Беларусь? Калі я была ў сусветна вядомых музеях: Метраполітэн Музей, Музей сучаснага мастацтва -- і пабачыла карціны Марка Шагала, падпісаныя "Марк Шагал, Беларусь", у мяне слёзы навярнуліся ад гонару...

Дык вось, тое, на што я разлічвала, я атрымала. Я ехала пачарпнуць інфармацыю з кніг і акунулася ў гэтыя кнігі з галавой. Па-другое, я ведала, што ў мяне будуць зносіны з калегамі. Гэта я таксама атрымала. Потым я ведала, што як выкладчык я магу паглядзець, як там адбываецца навучальны працэс, а менавіта тыя дысцыпліны, якія мяне цікавяць, -- па культуры і па мастацтву.

У шэсць гадзін раніцы я падымалася і к васьмі ўжо была ў бібліятэцы. Я пабачыла вялізную колькасць кніг пра савецкіх рэжысёраў. А столькі кніг аб Таркоўскім, яго дзённікі я нідзе не бачыла.

Пасля бібліятэкі, у залежнасці ад таго, які быў план, я альбо сустракалася з выкладчыкамі МІТа (Масачусецкі інстытут тэхналогіі), асабліва мяне цікавіў кінафакультэт, альбо ішла ў Паўночна-усходні універсітэт, дзе знаходзіўся факультэт журналістыкі. Але часцей за ўсё я хадзіла ў Гарвард. На тэрыторыі Гарварда размешчаны кінаархіў. У ім наладжваліся прагляды для студэнтаў па вечарах, там ішлі фільмы для людзей, якія проста любяць і ведаюць кіно. Праходзілі кінасемінары, сустрэчы з кінакрытыкамі, і паўсюль я прымала ўдзел. На адной з такіх сустрэч я выступіла, і пасля майго маналога пра савецкае кіно мне заапладзіравалі. І праз некалькі дзён, калі я ўжо адышла ад гэтага семінара, да мяне падыходзілі і дзякавалі з захапленнем. І гэты момант маёй біяграфіі я буду памятаць, напэўна, усё жыццё.

**-- Скажыце, пабываўшы на лекцыях, пагаварыўшы з выкладчыкамі, вы, напэўна, можаце параўнаць амерыканскую сістэму адукацыі з нашай. Ці існуе розніца і ў чым?**

-- Вы ведаеце, розніца вось у чым: там не прымушаюць студэнтаў вучыцца пяць гадоў.

**-- У сэнсе?**

-- Гэта значыць, там сістэма адукацыі складаецца з трох ступеняў. Першая -- гэта прафесійная частка. Ты вывучаеш на працягу двух гадоў спецыяльныя прадметы. І за два гады ты вызначаешся, варта табе вучыцца далей ці не. Калі не, ты ідзеш працаваць. Калі ў цябе ёсць жаданне працягваць навучанне, ты вучышся яшчэ два ці тры гады (у залежнасці ад ВНУ). Як ты вучышся? Ты вывучаеш вялізную колькасць разнастайных прадметаў. Справа ў тым, што ў іх вельмі кепская сярэдняя адукацыя, і яны ведаюць пра гэта. Нашыя школьнікі вывучаюць значна болей прадметаў, чым іх. І вось гэтыя прабелы ў школьнай адукацыі яны запаўняюць у ВНУ. На журфаку студэнты вывучаюць усё: астраномію, фізіку, хімію...

Амерыканскія студэнты навучаюцца ў бібліятэках. Гэта тое, што ў нас страчана. Я не ведаю, з каго спытаць і каго ў гэтым вінаваціць. Студэнтаў я не абвінавачваю -- ім трэба неяк выжываць, зарабляць грошы. Але ў нас страчана галоўнае -- жаданне адукоўваць сябе... Такім чынам, розніца ў адукацыі вось у чым. Студэнт мае права выбару. Студэнт вольны, ён -- асоба, якой давяраюць. У яго ёсць права выбару, але гэты выбар абавязвае. Ты выбраў на другой ступені пяць ці шэсць спецкурсаў -- меней нельга, болей можна -- ты павінен вучыцца. Калі ты прапускаеш заняткі, адміністратыўная частка дасылае табе пісьмовае паведамленне: вы прапусцілі, будзьце ласкавы адпрацаваць.

**-- Добра, а якія вынікі? Узровень ведаў? Як дамагаюцца таго, каб гэтыя прабелы ў сярэдняй адукацыі ліквідаваліся?**

-- Ведаеце, я жыла ў студэнцкім інтэрнаце. Мне было вельмі цікава паназіраць, што такое іх студэнцкае жыццё. Я жыла з дзяўчынай гадоў дваццаці, карэянкай. Цікава, у яе быў сябар з Украіны... Яны вельмі адукаваныя людзі. не толькі ў галіне сваёй спецыяльнасці, але і ў галіне культуры, мастацтва, яны чытаюць велізарную колькасць кніг. І я не памятаю таго дня, каб мая суседка праспала і не пайшла б на лекцыі. Я не памятаю, каб у выхадныя дні яна некуды паехала і расслабілася. І нават у святы яна хадзіла ў бібліятэку.

**-- Ці ёсць розніца паміж студэнцкім жыццём амерыканскіх студэнтаў і нашых?**

-- Гм, як вам сказаць... Я не ведаю, можа, гэта менталітэт наш такі, стыль, звычка такая, але ў нас вось гэтая кампанейскасць...

**-- Кухоннасць...**

-- Так-так, агульны побыт, гэта вельмі развіта. У іх гэтага няма...

**-- Вы самі падчас, як былі студэнткай, жылі ў інтэрнаце?**

-- Так, я жыла ў інтэрнаце. Але мы тады, калі параўноўваць з цяперашнім інтэрнатам, чыталі кнігі, сядзелі ў чытальнай зале і працавалі. Зараз жа гэтага няма. Ну добра, грошы трэба зарабляць, але... Відаць, калі пачынаецца перакос у эканоміцы, сацыяльным жыцці, ён паўсюль пачынаецца, гэты перакос. А там? Студэнты занятыя сваёй справай, яны не здабываюць грошай.

**-- А ў госці адзін да аднаго ходзяць студэнты ў інтэрнаце?**

-- Не-не, гэта не прынята. Увогуле, да слова сказаць, амерыканцы -- вельмі раз'яднаны народ. там нават не прынята сем'ямі сябраваць. Разумееце, тое, што ёсць у нас, -- нейкі агульны, саборны пачатак жыцця, -- там гэтага няма. І ад гэтага адчуваеш самоту. Амерыканцы -- народ дастаткова халодны, прагматычны. У іх няма таго, што называецца душэўнай шырынёй. Увогуле паняцце душэўнасці ў амерыканскім жыцці адсутнічае. Можа, таму ў іх краіне і ў сістэме адукацыі такая моцная цікавасць да дзвюх культур -- савецкай і японскай. І калі я пытаю: а чаму савецкая? -- яны кажуць: гэта вялікая культура, таму што духоўная. Дарэчы сказаць, з нагоды адукацыі яшчэ чым яна адрозніваецца: незалежна ад ВНУ вельмі вялікая колькасць прадметаў па мастацтву і культуры. Праз гуманітарныя прадметы праходзяць усе студэнты: фізікі, хімікі.

**-- Мяркуючы па вашых расказах, вы добра спазналі Амерыку. Вы хутка прывыклі да гэтай краіны?**

-- О, не. За тры месяцы я да Амерыкі так і не прывыкла. Гэта нейкая вялізная і вельмі халодная краіна. І гэта пры тым, што побыт у ёй неверагодна зручны. Ідэальны варыянт -- працаваць у Амерыцы нейкі час. Табе прадастаўляецца ўсё: асобнае памяшканне, камп'ютэр, ксеракс, цябе пазнаёмяць з усімі выкладчыкамі, якія змогуць дапамагчы і даць патрэбную інфармацыю. Але табе дапамогуць. Аднак пры гэтым яны халодныя, ім няма справы да цябе і тваіх праблем. І мая душа не прыняла Амерыку.

**-- З якімі настроямі вы вярнуліся?**

-- У мяне быў неверагодна прыгнечаны стан. І, відаць, я ў гэтым не арыгінальная, бо я чула, што шмат якія людзі вяртаюцца ў падобным стане. Разумееце, у мяне ж была магчымасць прадоўжыць камандзіроўку, але пры адной умове: не вяртацца. аднак я не магла болей там заставацца... Адна з прычын -- гэта тое, што называецца настальгіяй. Я не магу, як гэта ні банальна і гучна сказана, доўга быць без Радзімы. Калі б можна было вярнуцца, глынуць гэтага паветра, пабачыць сваё, роднае, а потым назад -- такі варыянт мяне б задаволіў. Але... Калі прыязджаеш сюды, дэпрэсія пачынаецца не таму, што там добра.

Я ведаю, што я ніколі не буду эмігранткай. Дэпрэсія наступае не таму, што ты сышоў ад таго, добрага, жыцця, а ад болю, што тут так кепска. Неймавернае пачуццё болю: чаму так кепска? Я пераканана, у тых выкладчыкаў болей магчымасцей лепш выкладаць, значна болей матэрыяльных сродкаў. Але я не магу сказаць, што іх выкладчыкі метадычна выкладаюць лепш за нашых. Альбо выкладаюць неяк вельмі арыгінальна. Як і таго, што іх выкладчыкі болей інфармацыйна насычаныя і ведаюць болей, чым нашы выкладчыкі.

**-- Пры той каласальнай тэхнічнай аснашчанасці...**

-- Так. Гэта адзінае, у чым я не адкрыла для сябе Амерыкі. Вось тут адкрыццяў не адбылося. Я абсалютна пераканаая, што нашы выкладчыкі не горш, а нават і лепш. Я не ведаю, што б рабіў амерыканскі выкладчык, увайшоўшы ў нічым не абсталяваную аудыторыю, дзе яму трэба чытаць лекцыі па гісторыі мастацтваў. Ен нічога не змог бы зрабіць. Я не ўяўляю ступені здзіўлення амерыканца, увайдзі ён у кастрычніку ў аудыторыю, якая не ацяпляецца.

**-- Людміла Пятроўна, а што могуць чакаць студэнты ад вашай паездкі?**

-- Ну, што студэнты могуць чакаць ад выкладчыкаў? Ведаў. І чым гэтыя веды глыбей і сучасней, тым больш студэнты выйграюць ад гэтага.

*Гутарку вяла Марына ГУЛЯЕВА, для "БМ"*

